# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:**
Вільня, Востробрамска вул. 9
(Ostro-bramska 9).
Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аутара і адрасам для ведама Рэдакцыі. Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вартаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 50 м.**
Падпіска на 3 месяцы каштуе 600 м.
(з даст. да хаты).
Цана абвестак: перад тэкстам 200 мк., сярод тэксту 300 мк. і на апошняй страніцы 120 мк. за радок пэтыту у 1 шпальт.

**Год II.** **Вільня, Серада 11-га кастрычніка 1922 г.** **№ 25 (50).**


## Да нацыянальных меншасьцей Польскае Рэспублікі.

Выбарны закон у Сойм і Сэнат крыўдзіць не выключаючы усе нацыянальныя меншасьці.

З прычыны павялічаньня ліку галасоў на кожнага пасла ў акругох мешаных, асабліва на усходніх акраінах, з прычыны урэзанага права карыстаньня дзяржаўным сьпіскам, з прычыны разделеньня дзяржаўных мандатоў па ліку атрыманых мандатаў, а не па невыкарастаных рэштках галасоў, кожная нацыянальная меншасьць ня можа правясьці поўнага свайго прадстаўніцтва, якое ёй належыцца па сіле і значэньню. Да гэтага далучаецца яшчэ практыка адміністрацыйных установ у выдачы дакумантаў польскага грамадзянства, зьменшаючы гэтым лік выбаршчыкаў, належучых да няпольскай нацыянальнасьці. Установы гэтыя не пагарджаюць самых дзікіх гвалтаў і нарушэньняў закону, каб толькі дайсьці да свае мэты,—каб аслабіць прадстаўніцтва меншасьцяў і не даць ім магчымасьці вясьці барацьбы нават парлямэнтарным парадкам, каб можна было з імі зусім ня лічыцца.

Гэтая небясьпека павінна была быць папярэджана. Усе нацыянальныя меншасьці гэта зразумелі і створылі блёк, аб'едналіся ў перадвыбарны хаўрус, які значна павялічываючы іхнюю моц, можа адсунуць грозныя вынікі крыўднага выбарнага закону. Перамаглі яны усе труднасьці і перашкоды, на якія так моцна разлічала, пануючая ў Сойме правіца, якая будуець польскую палітыку на крыўдзе нацыянальных меншасьцей. Яна думала, што удасца павадзіць паміж сабой аб'еднаныя народы, ворага настроіць адзін супроць другога, каб іх абяссіліць, разьбіць, але ёй гэтага не удалося. Не памаглі ніякія нягодныя выдумкі, паклёп, кіданыя на адзінкі, уваходзячыя ў блёк, не памаглі злосныя пагалоскі аб дзейнасьці блёку. Блёк стаў моцна, спаяны агульным даверыем, цесна звязаны з народнай гушчай, стаў магутны, непакананы.

Поўная сьвядомасьць неабходнай барацьбы за дэмакратычны лад у Польшчы, які абясьпечыць і задаволіць усе патрэбы і дамаганьні нацыянальных меншасьцей, дае гэтую моц і стойкасьць блёку. Правы, якія дае Польская канстытуцыя для кожнага грамадзяніна і нацыянальным меншасьцям, павінны быць як найхутчэй праведзяны ў жыцьцё. Усякі гвалт над чужаземцамі павінен быць спынены. Кожная нацыя, якая уваходзіць у межы Польскага гаспадарства павінна свабодна, без штучных перашкод разьвівацца культурна і нацыянальна. У Польскай рэспубліцы у якой павінен уладарыць ўвесь нарад не павінна быць ані пакуыўджаных, ані крыўдзячых народаў.

З гэткім поклічам ідзе да выбараў Блёк Нацыянальных Меншасьцей. Ен глыбака верыць, што знойдзе падтрыманьне ня толькі сярод сваіх народаў, але і сярод шчырай польскай дэмакратыі, якая прызнае справядлівасьць дамаганьняў і барацьбы Блёку. Польская дэмакратыя не павінна апынуцца сярод ворагоў Блёку, якія, крыўдзячы і нявелючы няпольскія народы хочуць даць шчасьце і магутнасьць для Польшчы.

Да перадвыбарнай барацьбы за гэтыя поклічы, за належнае нам прадстаўніцтва у Сойме і Сэнаце заклікаем усе нацыянальныя меншасьці!

Хай кожны знае, што ў гэтай прадвыбарнай барацьбе рашаецца лёс яго і усіх іншых, што рашаецца пытаньня ці ў Польшчы будуць гаспадарыць усе народы супольна згодня іхніх патрэб і волі, ці толькі пануючая нацыя і—то вышэйшая яе кляса.

Ад вынікаў гэтай парадвыбарнай барацьбы будзець залежыць лад у Польшчы і яе урад.

Галасуйце за покліч: Годзі крыўдзіць нацыянальныя меншасьці!

Хто-б там ня быў, ці Беларус, ці Немец, ці Расеець, Украінец альбо Жыд кожны мусіць мець права свабоднага разьвіцьця ў Польшчы.

З гэтым поклічам—пераможам.

**Цантральны Выбарны Камітэт Блёку Нацыянальных Меншасьцей у Польскай Рэспубліцы.**

## За свой сьпісак.

З вялікімі труднасьцямі, але-ткі згодна закончылі беларусы першую палову выбарнае работы. Сьпіскі кандыдатаў у Сойм і Сэнат ужо закончаны і пададзены ўладзе. Цяпер толькі трэба далей арганізаваць нашы сілы, трэба вясьці агітацыю, каб усе беларусы, хто жыў і дуж, у дзень выбараў 5 лістапада падалі свае галасы за сьпісак **№ 16.**

Трэба адзначыць, што за першыя паўтара месяца выбарнае кампаніі зроблена вельмі многа. Даволі сказаць, што ўсе паветы і акругі прынялі самае жывое ўчасьце ў укладаньні кандыдацкіх сьпіскаў, што кандыдаты, якія ўпісаны пад **нумарам шаснаццатым,** —гэта кандыдаты самага нашага сярмяжнага народу, косьць з косьці і кроў з крыві яго. Лічба беларускіх выбарных камітэтаў па абводах і валасьцёх гэтак узрасла, што ў газэце няма ўжо магчымасьці даваць поўны сьпісак іх: лішне многа месца трэ на гэта! Дый няма такое волясьці,

